# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

КАСТРЫЧНІК 1994

**НЕЗАЛЕЖНАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ҐАЗЭТА**


ГІСТОРЫЯ

## ГАРАДЗЕНСКАЯ ВЫШЭЙШАЯ МЭДЫЧНАЯ ШКОЛА

Гарадзенская Вышэйшая Мэдычная Школа была заснавана ў 1773 годзе, па ініцыятыве Эдукацыйнай камісіі і гарадзенскага старасты Антонія Тызенгаўза.

Для кіраўніцтва школай запрашаўся з Францыі (Ліона) вядомы біёлаг, прафесар Жан Эмануіл Жылібер, які прыбыў у Горадню ў кастрычніку 1875 года. Мэдычная школа мела ўсе правы універсітэта, і для яе быў спецыяльна падрыхтаваны трохпавярховы будынак. Акрамя Жылібера тут выкладалі хірург Вірыон, хімікі Мюнц, Менард Іксельман, два фельдшары і акушэрка, выпісаныя з Парыжу.

Заняткі ў Школе пачаліся ў 1776 годзе на трох аддзяленьнях: лекарскае аддзяленьне на дзесяць «дзяцей добрага паходжаньня і выдатных здольнасьцяў», аддзяленьне правінцыйных лекараў і хіругаў на дваццаць чалавек, а таксама аддзяленьне павівальнага мастацтва, дзе спачатку вучылася пяць, а пасьля сямнаццаць дзяўчат.

Вышэйшая школа была на ўзроўні хірургічных акадэмій таго часу., бо калі ў 1775 годзе ў Рэчы Паспалітай не было ніводнай вучэбнай мэдычнай установы, якая б мела больш аднаго прафесара мэдыцыны, то ў Горадні іх было чатыры.

Навучэнцы знаходзіліся на ўтрыманьні дзяржавы. Большасьць зь іх (акрамя, зразумела, аддзяленьня лекараў), была з прыгонных сялян, якія ў параўнаньні з вольнаадпушчанымі ці дваравымі людзьмі, адносіліся да вучобы больш сур'ёзна. Прадугледжвалася, што выхаванцы будуць абслугоўваць тыя экономіі, адкуль іх набіралі.

Пры Школе быў адкрыты кабінет прыродазнаўства, у яго распараджэньне была перададзеная мяцовая аптэка, заснаваная яшчэ езуітамі ў 1687 годзе. Мела Школа і добра абсталяваны анатамічны кабінет, дзе для паляпшэньня практычнай падрыхтоўкі навучэнцаў праводзіліся досьледы на жывёлах. На жаль, з-за моцнага супрацьдзеяньня езуітаў (забароненых, але не страціўшых свой уплыў на грамадзтва), кабінет быў неўзабаве зачынены.

Практычныя заняткі праводзіліся ў гарадзенскім шпіталі, дзе кожны навучэнец назіраў за пяцьцю хворымі і павінен быў штодзённа адзначаць эфектыўнасьць дзеяньня лекаў у гісторыі хваробы.

У Школе курс мэдычнага навучаньня спалучаўся з вывучэньнем агульнаадукацыйных прадметаў. Чыталіся тут і лекцыі па мінералогіі, заалогіі і батаніцы. Жылібер разам з выхаванцамі зьбіраў у навакольлі горада, а таксама пад Нясьвіжам, Наваградкам, Вішневам расьліны, мінералы, адлоўліваў насякомых, птушак, жывёл.

У 1779 годзе адбыўся першы выпуск выхаванцаў Школы. У той жа час яна ўсталявала трывалыя сувязі з навукоўцамі шмат

працяг на стар. № 8

# РЭЛІГІЙНАЯ І ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

## РЭЛІГІЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ

**1. Чым вызначаюцца адносіны дзяржаўнай навучальнай установы да рэлігіі ?**

Законамі Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» і «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыяй». У Законе «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях» гэтыя адносіны вызначаны наступным чынам (арт.8): «Дзяржаўная сістэма адукацыі і выхаваньня ў Рэспубліцы Беларусь носіць свецкі характар і не ставіць мэтамі фармаваньне тых або іншых адносін да рэлігіі».

**2. Ці дапушчальна рэлігійнае або атэістычнае выхаваньне ў навучальных установах ?**

У дзяржаўных навучальных установах не дапушчальна ні рэлігійнае, ні атэістычнае выхаваньне ні ў якіх формах. Гэта вынікае са сьвецкага характару навучаньня ў дзяржаўных навучальных установах і прынцыпа раздзяленьня сьвецкага і рэлігійнага навучаньня.

**3. Ці дазваляецца правядзеньне ў навучальных установах рэлігійных абрадаў, цырымоній ?**

У дзяржаўных навучальных установах не дапушчаецца.

**4. Ці дапушчаецца правядзеньне рэлігійнага навучаньня на базе дзяржаўных навучальных устаноў ?**

Не дапушчаецца. У адпаведнасьці з арт.8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях» для рэлігійнай адукацыі дзяцей і дарослых зарэгістраваныя рэлігійныя арганізацыі могуць выкарыстоўваць «памяшканьні, якія ім належаць або даюцца ў карыстаньне, акрамя памяшканьняў дзяржаўных навучальных устаноў».

**5. Ці могуць рэлігійныя арганізацыі накіроўваць школьнікаў і навучэнцаў у замежныя рэлігійныя школы і лагеры (з адрывам ад навучаньня) ?**

Гэта не дазваляецца ў час іх навучаньня ў дзяржаўных навучальных установах.

**6. Якім чынам навучэнцы могуць знаёміцца з рэлігіяй ?**

У навучальныя планы дзяржаўных навучальных устаноў могуць быць уведзены факультатыўныя курсы «Гісторыя рэлігіі», «Сусьветныя рэлігіі», «Рэлігіязнаўства», якія павінны мець інфармацыйны характар і не суправаджацца рэлігійнымі абрадамі.

Выкладаць гісторыю рэлігіі павінны настаўнікі, якія маюць спецыяльную прафесійную падрыхтоўку.

## ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ

**7. Чым вызначаюцца адносіны да палітычнай дзейнасьці ва ўстановах сістэмы адукацыі ?**

Законам «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», у якім існуе артыкул «Адукацыя і палітычная дзейнасьць».

**8. Ці дазваляецца дзейнасьць партый у навучальных установах?**

У адпаведнасьці з названым артыкулам Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», ва ўстановах сістэмы адукацыі забараняецца дзейнасьць структур палітычных партый або іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, што маюць палітычныя мэты, а таксама дзіцячых,

# У ДЗЯРЖАЎНЫХ НАВУЧАЛЬНА-ВЫХАВАЎЧЫХ УСТАНОВАХ

падлеткавых ці юнацкіх згуртаваньняў, якія дзейнічаюць выключна на падставе статутаў такіх партый ці аб'яднаньняў.

**9. Ці дазваляецца палітычная агітацыя ў навучальных установах?**

Палітычная агітацыя дазваляецца толькі ў час правядзеньня агульнадзяржаўных палітычных кампаній: выбараў, рэферэндумаў. У іншы час усе палітычныя мерапрыемствы (палітінфармацыі, дыскусійныя клубы і інш.) павінны мець толькі інфармацыйна-тлумачальны характар.

**10. Як могуць навучэнцы павышаць сваю палітычную культуру ?**

Пры вывучэньні курсаў гуманітарных і грамадзкіх дысцыплін, шляхам арганізацыі клубаў палітычных ведаў, дыскусійных клубаў, правядзеньня палітінфармацый і інш. У навучальна-выхаваўчых установах рэкамендавана ствараць такія мадэлі жыцьцядзейнасьці, якія б адпавядалі ці імітавалі грамадзка-палітычную сістэму краіны: з выбарамі і рэферэндумамі, самакіраваньнем, грамадзкімі арганізацыямі і нефармальнымі аб'яднаньнямі, незалежнымі радыё- і насьценнымі газэтамі. Рэкамендавана аказваць дапамогу органам самакіраваньня, творчым аб'яднаньням навучэнцаў, дзіцячым, юрацкім арганізацыям і рухам, дзейнасьць якіх не супярэчыць існуючаму заканадаўству.

## КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:

1. Пісьмо па Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь «Аб адносінах дзяржаўных навучальна-выхаваўчых установ да рэлігіі і рэлігійных арганізацый» за 22.12.1993 № 12-4/538. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» № 3 /1994.
2. Пісьмо па Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь «Аб адносінах да палітычнай дзейнасьці ва ўстановах сістэмы адукацыі рэспублікі» за 22.12.1993 № 12-4/539. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» № 3/1994.

ЭдгарПо

## СЭРЦА ВЫКРЫВАЕ
**(навэля)**

пераклад Ю.Бушлякова

Праўда! Я быў і застаюся нэрвовы, вельмі, нават жахліва нэрвовы; але ж чаму вы скажаце, што я - вар'ят? Хвароба абвастрыла мае пачуцьці - ані не паслабіла, не прытупіла іх. Найвастрэйшым з усіх было пачуцьцё слыху. Я чуў усё чыста, што адбывалася як на небе, гэтак і на зямлі. Я чуў ці ня ўсё, што чынілася ў пекле. Дык няўжо ж я - вар'ят? Прыслухайцеся й майце ўвагу, як разважліва я сам магу апавесьці ўсю гісторыю.

Нельга сказаць, як упершыню гэтая ідэя прыйшла мне ў голаў, але, прычапіўшыся аднаго разу, яна не пакідала мяне ні ўдзень, ні ўночы. Тут не было ні намеру, ні абвостранае жарсьці. Я любіў гэтага старога. Ён аніводнага разу не зрабіў мне нічога благога, не пакрыўдзіў мяне. Я не зважаў на ягонае золата. Здаецца, прычынаю ўсяго было ягонае вока, мяноўна яно! Вока, бледнае й блакітнае, зацягнутае плеўкаю, было падобнае да грыфавага. Калі ж яно натыкалася на мяне, мая кроў халадзела; гэтак спакваля я надумаў забіць старога, каб назаўжды пазбавіцца гэтага вока.

Вось і ўся рахуба. Мяркуеце, я - вар'ят? Вар'яты нічога не цямяць. Каб жа вы бачылі мяне, бачылі, якім адмысловым спасабам я ўсё рабіў - зь якою перасьцярогай, зь якою перадбачлівасьцяй, зь якім удаваньнем распачаў я работу! Ніколі я ня ставіўся да старога гэтак добра, як цягам тыдня перад забойствам. І штоночы, блізу дванаццатае, я падымаў клямку ягоных дзьвярэй і прачыняў іх - ціха-ціха! А пасьля, зрабіўшы дастатковую для сваёй галавы шчыліну, я скіроўваў туды добра зачынены, каб ня блісну.ла сьвятло, зацемнены ліхтар, а ўсьлед ужо засоўваў голаў. Эх, вас ахапіў бы сьмех, калі б пабачылі, як умела я прасоўваў яе. Я соваў яе паволі, дужа паволі, каб не патурбаваць старога ў сьне. Цэлая гадзіна йшла на тое, каб памясьціць маю голаў гэтак глыбока ў шчыліну, што я мог бачыць старога на ложку. Га!.. Хіба ж мог вар'ят дзеяць гэтак разважліва? А калі мая голаў трапляла ў пакой, я з асьцярожнасьцяй расчыняў ліхтар, надзвычай асьцярожна расчыняў яго (дзеля рыпу петляў) настолькі шырока, каб просты ценькі праменьчык спадаў на драпежнае вока. І гэта

працяг на стар. № 8

# АРТЫКУЛ ПРА ХАБАРДА І ДЫЯНЭТЫКУ

## Паўлюк БУКА

### 1. Гісторыя псыхалягічных ведаў.

Псыхіка, як чын уладкаваньня сыстэмаў праз рэгуляцыю паводінаў, зьявілася шмат у якіх жывёлаў, але цалкам склалася ў сысуноў. Чалавек атрымаў гатовую псыхіку -- тую, што склалася ў малпаў, і амаль не зьмяняў яе, бо рушыў далей іншым чынам: праз стварэньне вытворчасьці.

Псыхалягічныя веды: веды пра ўласныя паводзіны і паводзіны іншых, пра норму й адхіленьні, зьявіліся даўно, прынамсі ўжо шаманы спрабавалі адужаць псыхічныя хваробы й мелі пэўны посьпех. Рэлігіі злучалі гэтыя веды зь містыкай і па свойму іх парадкавалі. Між сыстэмаў такога кшталту найболей вядомая цяпер -- сыстэма ёгі.

У Эўропе ў XIX стагодзьдзі псыхічныя веды аддзяліліся ад рэлігіі й філязофіі, была сфармуляваная мэта пабудовы псыхалёгіі па ўзоры дакладнай навукі. Такіх тэорыяў настваралі на сёньняшні дзень прорву, але ўсе яны эфэктыўныя ня болей як мятоды шаманаў, і кожнае новае пакаленьне псыхолягаў стварае новыя падобныя тэорыі. Таму мяркуецца, што праграма пабудовы псыхалёгіі па ўзоры дакладнае навукі правалілася, а псыхалёгія бягучым часам знаходзіцца ў крызе.

Зьявіліся меркаваньні, што псыхалягічныя тэорыі магчымыя толькі як сыстэма мэтафараў, а паняцьцямі псыхалёгію нельга апісаць. Пад уплывам пазытывізму й прагматызму пачалі адмаўляцца ад тэорыяў ладу псыхікі і складаць так званыя практычныя мэтодыкі, каторыя толькі навучалі нейкай псыхічнай тэхніцы. Такія стаўленьні да праблемы дазвалялі пазьбегнуць пустых спрэчак якая мова, якая тэорыя лепшая, захаваць усе тэорыі, і працаваць у іх, дасягаючы практычнага выніку, але не дапамагалі вырашыць праблему малой эфэктоўнасьці.

Магчымае выйсьце з такога становішча прапануе Дыянэтыка. Гэтая тэорыя створана Л.Ронам Хабардам ў 30-40-х гадох і цяпер прапагандуецца выдавецтвам «Новая Эра». Яна склалася як практыка нетрадыцыйнага кшталту, і як практыка вельмі эфэктыўная, нават у нявопытных рукох (прынамсі такая ставілася мэта). Дыянэтыка грунтуецца на ўласнай тэорыі, даволі прымітыўнай на выгляд, але цікавай ў сваіх прынцыповых ідэях. Яна -- вельмі папулярная й шырокаўжываная на Захадзе: першая кніга «Дыянэтыка. Сучасная навука, як зрабіць душу здаровай» перакладзеная на 22 мовы, выйшла агульным накладам 10 мільёнаў (да 1987 году). У 1993 годзе яна была надрукаваная па-расейску.

Калі традыцыйная псыхалёгія шукае прычыны псыхічных адхіленьняў у тым, што чалавек сам ведае сябе, дыянэтыка мяркуе, што гэта структуры схаваныя ад сьвядомасьці і прапануе мэтоду выяўленьня й абясшкоджаньня такіх структураў. Фактычна дыянэтыка прапануе новую псыхалягічную парадыгму і нанова будуе на ёй тэорыю.

Праўда ў самой дыянэтыцы сьцьвярджаецца, што яна новая асобная навука. Але яна кажа пра тыя самыя зьявы, тлумачыць тыя самыя факты, каторыя ёсьць у псыхалёгіі, таму іх натуральна мецьць за адну навуку, збудаваную ў розных тэорыях на аснове розных парадыгмаў, мэтодаў, або яшчэ чаго.

### 2. Тэорыя дыянэтыкі

Дыянэтыка пачынае з таго, што адкідае сумную выснову нашага стагодзьдзя пра абмяжаванасьць і прынцыповую заганасьць чалавечага розуму. Дыянэтыка сьцьвярджае, што ад прыроды чалавек мае ідэальную памяць, дакладней ня памяць, а іншы мэханізм, каторы дазваляе аднавіць у сьвядомасьці ўсё, што было раней адчутае, пачынаючы з дародавага пэрыоду. Другі мэханізм, названы фантазіяй, дазваляе скамбінаваць адчуваньні з розных момантаў жыцьця (акрамя таго ў большасьці шчэ йснуе мэханізм творчае фантазіі, каторы стварае новыя, ніколі ня чутыя адчуваньні). Розум дазваляе найлепшым чынам адпрацаваць усе вядомыя факты й абраць найлепшую стратэгію.

Чаму-ж тады большасьць людзей, калі можа гэта рабіць, дык з вялікімі цяжкасьцямі. Дыянэтыка дае наступны адказ: наш розум падзяляецца на тры часткі: адну сьвядомую й дзьве несьвядомыя, з каторых за ўсе заганы адказная толькі адна.

Найперш у чалавеку йснуе саматычны розум, што кіруе целам на біялягічным узроўні. Ён кіруе засвоенымі ўзорамі паводзінаў, каторыя ўжываюцца для звычайных адпрацаваных дзеяньняў. Ён працуе несьвядома, але цалкам падпарадкаваны сьвядомасьці: запускае патрэбны засвоены ўзор паводзінаў, або складае новы, калі таго патрабуе сьвядомасьць.

Па-другое: аналітычны розум (нашая сьвядомасьць), каторы ажыцьцяўляе збор, апрацоўку й захаваньне ведаў для ўсьведамленьня й вырашэньня праблемаў. Ён працуе йдэальным чынам, і памыляецца, толькі калі ў яго ўведзеная памылковая інфармацыя. Але ён здольны высьвятляць праўдзівасьць фактаў, таму памылкі з часам выпраўляюцца. Аналітычны розум --ідэальны апарат думкі.

А ўсе заганы чалавечых паводзінаў выклікаюцца працаю трэцяга, рэактыўнага розуму. Ён зьбірае й сыстэматызуе выпадкі фізычнага й эмацыйнага болю, фіксуе яго ў вадметных адзінках памяці, каторыя дыянэтыка заве інграмамі. Калі вонкавыя ўмовы робяцца падобныя да тых, дзе раней быў адчуты боль, рэактыўны розум імкнецца перахапіць кіраваньне саматычным розумам і арганізмам і пазьбегнуць болю. Сам ён даволі прымітыўны: ўсе словы разумее ў іх першасным значэньні й успрымае як каманды, таму ў сёньняшніх умовах яго дзеяньні -- зусім дурныя.

Дзеяньне інграмаў і рэактыўнага розуму рознастайныя, але заўжды шкодныя. Варта, напрыклад, каб у нейкай інграме былі запісаныя чыесьці словы «Ён нічога ня чуе», незалежна, хто меўся на ўвазе, каб ў чалавека пагоршыўся слых, і каб ён ня мог, вяртаючыся ў мінулае, выклікаючы яго ў сваёй сьвядомасьці, нічога ня чуць.»Ты нічога ня памятаеш, дурань» навогул пазбавіць магчымасьці што-небудзь узнаўляць у сьвядомасьці, а чалавек будзе сумнявацца ва ўласных разумовых здольнасьцях.

Рэактыўны розум імкнецца драматызаваць: выключыць аналітычны розум і ўвасобіць, як у тэатры, зьмест інграмаў, але імкнецца зьмяніць ролю, каб не чалавека білі, а ён біў. Калі гэта ўдаецца, ў пабітага зьяўляецца новая інграма, калі не -- у чалавека разьвіваюцца розныя псыхасаматычныя хваробы. Хваробы таксама зьяўляюцца, калі патрабаваньні адной інграмы перашкаджаюць іншай,бо хоць адна застанецца незадаволенай.

Інграмы выклікаюць наркаманіі, звычкі й амаль бяскрыўдныя, і небясьпечныя, псыхічныя адхіленьні, маніі і іншыя хваробы (Напрыклад увесьці ў позу зародыша й ня выпускаць). Яны ствараюць «дэманаў»: галасы, або думкі, каторыя пярэчаць або пагаджаюцца з нашым «Я» могуць пазбавіць чалавека часткі жыцьцёвае сілы, каторая будзе выяўляцца толькі ў час драматызацыі інграмаў. Карацей, усе псыхічныя адхіленьні, акрамя фізыялягічных парушэньняў нэрвовае тканкі выклікаюцца інграмамі.

Інграмы імкнуцца схавацца ад аналітычнага розуму, калі нейкай інграме гэта не ўдаецца -- яна болей ня будзе інграмай. А схаваўшыся, інграмы вымушаюць розум апраўдаць учынкі, каторых яны патрабуюць, і цалкам пасьпяхова: чалавек адчувае холад у сьпякоту й наадварот, навогул усё, што толькі можа адчуваць і што можа яго прымусіць дзейнічаць так, як патрабуе інграма. Акрамя таго, інграмы з эмоцыямі і самыя раньнія дародавыя інграмы ўзаемна хаваюць адны адных нават ад мэтодаў дыянэтыкі.

### 3.Тэрапія дыянэтыкі.

Дапамагчы чалавеку вельмі проста: варта пазбавіць яго ад усіх інграмаў (каторых бывае некалькі сотняў), і адхіленьні зьнікнуць самі (акрамя фізыялягічных парушэньняў, выкліканых раней, каторыя паменшацца, але не абавязкова зьнікнуць на ані). Гэты працэс у дыянэтыцы завецца кліраваньнем (ачышчэньнем) або адытынгам.

Сам чалавек няздольны выцягнуць уласнаю інграму, бо тая перахопіць кіраваньне на сябе і ўцячэ ад зьнішчэньня. Таму трэба, каб кліраваньне рабіў нехта іншы, такога чалавека завуць адытарам.

Чалавек, каторага кліруюць кладзецца на сьпіну й мусіць заплюшчыць вочы. Дыянэтыка мяркуе, што гэта ня прынцыпова, але ствярае належны настрой і скіраванасьць чалавека). Адытар просіць яго выклікаць у сьвядомасьці мінулае, і спрабуе праз словы, каторыя пацыент ужывае ў час драматызацый, яго ўлюбёныя словы, увайсьці ў інграму. Калі ў інграму ўдалося ўвайсьці, яе праходзяць некалькі разоў, ўзнаўляючы новыя й новыя дэталі, пакуль яна ня будзе вычарпаная й не разрадзіцца, або выявіцца выхад у новую інграму. Ускосны, але важны паказчык вычарпаньня інграмы -- сьмех пацыета й зьнікненьне боязі да самой інграмы, болю пры ўваходзе, й нежаданьня ўваходзіць у інграму. Часам знайсьці патрэбнае слова-зачэпку дапамагаюць паводзіны інграмы. Напрыклад, чалаве ня можа ўвайсьці ў зону, дзе йснуе інграма са словам «Прэч».

Навогул, кліраваньне -- гэта доўгая песьня, таму адытар можа ня вычышчаць усе інграмы, а толькі тыя, каторыя выклікаюць сур_ёзныя адхіленьні, небясьпечныя паводзіны, або моцны боль, пакінуўшы астатняе на будучыню. А ў васабліва вострых выпадках, напрыклад, траўматычнага шоку, даводзіцца навогул абмежавацца толькі апошняй інграмай, каб пазьбегнуць шоку.

І адна парада ўсім: калі побач з вамі чалавек у няпрытомнасьці -- маўчыце, бо ўсё, што Вы скажаце -- запішацца як інграма. Асабліва шкодна -- шкадаваць, бо гэтыя інграмы чалавек наймацней хавае і найлягчэй іх слухаецца, ён літаральна імкнецца круціць іх зноў і зноў, абы была нейкая зачэпка.

### 4.Папярэджаньне.

Гэты артыкул ня меў на мэце навучыць дыянэтычнай тэрапіі, на тое йснуюць даволі тоўстыя кнігі, а калі ўзяцца за справу без належнае падрыхтоўкі, можна заміж вылячэньня скалечыць чалавека. Таму ня рызыкуйце, а лепей пашукайце якою кнігу. Напрыклад:»Дыянэтыка. Сучасная навука душэўнага здароўя», выдадзеная па-расейску ў 1993 годе.

### 5.Заканчэньне.

Тут мы расказалі пра дыянэтыку тое, што яна самая пра сябе кажа, і пераважна яе ўласнымі словамі, каб чытач мог сам меркаваць, што гэта такое. Што датычыць абмеркаваньня й крытыкі дыянэтыкі, то, магчыма, мы надрукуем такі артыкул пазьней.

■

# Няма SUCCESSу без СПСу (з анг. success -- поспех)

**Свабодны прафсаюз студэнтаў,-- арганізацыя, якая нярэдка ўзгадваецца ў рэспубліканскім друку. Каб высветліць, чым яна займаецца, мы звярнуліся да яе старшыні, студэнта 3-га курса факультэта прыкладной матэматыкі БДУ Ігара Тышкевіча.**

*-- Ігар, як і калі быў заснаваны Свабодны Прафсаюз Студэнтаў, якія яго асноўныя мэты|*

-- СПС БДУ быў заснаваны 2 сакавіка 1994 года, калі на ўстаноўчы сход сабраліся студэнты, у асноўным з матэматычных факультэтаў БДУ. Мы зразумелі, што нашыя праблемы не хвалююць нікога акрамя нас. Разумеючы, што з кожным паасобку ніхто не будзе лічыцца, мы прыйшлі да неабходнасці аб'яднацца ў арганізацыю. Так узнікла ідэя стварэння СПС. Мэты ў нас падобныя да іншых прафсаюзаў: абарона сацыяльных, эканамічных ды іншых правоў студэнтаў. Мы назіраем за выкананнем заканадаўчых актаў, якія тычацца нашага навучання, спрабуем іх удасканаліць. Да таго ж мы спадзяемся хаця б крыху прымусіць працаваць афіцыйны прафсаюз, бо абараняць правы студэнтаў ён сваім абавязкам не лічыць.

*-- Чаму Вы не ўвайшлі ў афіцыйны прафсаюз, не паспрабавалі яго рэфармаваць|*

-- На наш погляд афіцыйны прафсаюз не з'яўляецца прафсаюзам у нармальным сэнсе гэтага слова. Хацеў бы расказаць пра такі выпадак. Падалі мы просьбу да рэктара выдзеліць нам памяшканне, папярэдне атрымаўшы ад яго згоду. Прыйшоў нам адказ, у якім гаворыцца, што мы такія дрэнныя, «узки наши ряды и страшно далеки мы от народа», і таму мець свой пакойчык са сталом і тэлефонам мы не павінны. Здзівіліся мы спачатку, а потым паглядзелі на подпіс пад адмовай і ўсе зразумелі. Як высветлілась, адказ нам пісаў старшыня афіцыйнага прафсаюза. Дакладна як у гумарэсцы, пішаш у Савет Міністраў або Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, а адказ прыходзіць ад начальніка ЖЭКа. Я гэта кажу да таго, што афіцыйны прафсаюз -- структура дзяржаўная. Таму і кіруюць ім людзі немаладыя, якія даўно ўжо не студэнты. Яны ніколі не змогуць абараніць інтарэсы студэнтаў, якія амаль заўсёды не супадаюць з інтарэсамі адміністрацыі ВНУ або кіраўніцтва рэспублікі. Урад нашай рэспублікі дае афіцыйнаму прафсаюзу грошы, якія ён размяркоўвае сярод студэнтаў -- сваіх сябраў у выглядзе пуцёвак. Нам, актыву СПС, прапаноўвалі працавацьу афіцыйным прафсаюзе, але мы адказныя не толькі перад сабой, але і перад іншымі сябрамі свабоднага прафсаюза. Так, у афіцыйным прафсаюзе мы змаглі б палепшыць прыватна свае жыццёвыя ўмовы, але нічога не змаглі б зрабіць для іншых студэнтаў.

*-- Што Вы паспелі зрабіць за некалькі месяцаў Вашага існавання|*

-- Першакурснікі з іншых гарадоў памятаюць, што спачатку за суткі пражывання ў інтэрнаце з іх запатрабавалі 15 тысяч рублёў. Да прыкладу, за ліпень нам, студэнтам, выдалі стыпендыі меньш за 60 тысяч. З-за такой высокай платы за інтэрнат для абітурыентаў многа разумных маладых людзей не паступіла ва універсітэт. Студэнты з СПС напісалі да рэктара, схадзілі на прыём і растлумачылі ўсю сітуацыю, у рэзультаце чаго аплата была паніжана да 6(шасці) тысяч. Калі ўлічыць, што ў сярэднім абітурыент жыве ў інтэрнаце не меньш дзесяці дзен, то мы сэканомілі паступаючым не так і мала грошаў. Яшчэ да гэтага мы паднялі пытанне пра тое, каб стыпендыю выплочвалі ў першых чыслах месяца, да таго, як яе з'есць інфляцыя. Адміністрацыя БДУ абяцала паставіць гэтае пытанне перад міністэрствам фінансаў.

*-- Як Вы ацэньваеце сучасную сацыяльную абароненасць студэнтаў|*

-- Мы лічым, што цяпер ідзе наступ на тыя невялікія сацыяльныя гарантыі, якія мелі студэнты ў нядаўнім мінулым. Напрыклад, ужо даўно студэнт не можа з'ездзіць у Пецярбург або Вільню, як раней, за палову кошту. З гэтай восені знялі ільготны тарыф за праезд на цягніку па Беларусі ў буднія дні. Думаю, не трэба тлумачыць, што іншагароднія студэнты вяртаюцца дамоў у пятніцу і некаторыя з іх прыязджаюць на вучобу ў панядзелак з раніцы. Усё часцей раздаюцца галасы з патрабаваннем адмяніць ільготную аплату на праезд у гарадскім транспарце. І адменяць, калі мы не скажам сваё слова. Усе разумеюць, што ні адзін студэнт не зможа пражыць за стыпендыю, якая складае адну мінімальную зарплату. І ніхто нават не падумае, што варта гэтую стыпендыю падвысіць, каб студэнты замест таго каб гандляваць на рынку, займаліся вучобай, навукай, спортам. Мы ўпэўнены, што студэнты павінны хадзіць у паходы, каб лепей даведацца пра сваю Радзіму. А гэта немагчыма без ільготнага кошту на праезд у міжгародніх

аўтобусах, бо ў многія куточкі Беларусі патрапіць на цягніку нельга. Як можна пабачыць, працы ў нас нямала. Спадзяюся, калі я і мае аднадумцы будзем скончаць універсітэт, студэнты будуць жыць значна лепей, чым мы жывем цяпер.

-- *Я заўважыў, што шмат хто з сябраў СПС размаўляе па-беларуску. Гэта вашае перакананьне, ці вы карыстаецеся роднай мовай толькі таму што яна хутка стане моваю справаводзтва|*

-- Так, бадай што палова сябраў нашага прафсаюза паміж сабой размаўляе на роднай мове. І гэта не патрабаванне часу. Ніхто з нас не пачаў карыстацца беларускай мовай толькі з-за таго, што на ёй выкладаецца частка прадметаў -- прычыны ляжаць значна глыбей. Для нас родная мова -- натуральная мова стасункаў. Мы стараемся не толькі размаўляць пабеларуску, але і, так бы мовіць, жыць па-беларуску. Таму можна сказаць, што гэта перакананне. Але ж сярод сябраў СПС БДУ вельмі шмат і расейскамоўных. Увогуле, мы не пазяляем і не зьбіраемся падзяляць студэнтаў на «нашых» і «не нашых» па палітычных рэлігійных ці якіх небудзь іншых перакананьнях. У тым ліку і па адносінах да мовы.

-- *Ігар, што б ты хацеў сказаць сённяшнім першакурснікам|*

-- Ходзіць такая показка, што да першай сесіі першакурснік не студэнт, а паступіўшы абітурыент. Я хачу сказаць першакурснікам, што калі Вы хочаце адчуць сябе паўнапраўнымі студэнтамі ўжо цяпер,-- уступайце ў свабодны прафсаюз. Як кажуць сябры нашага прафсаюзу:«Няма SUCCESSу без СПСу !»

**Кантактны тэлефон 687076 (Ігар)**

**Распытваў А.Міхалевіч**

# СТУДЭНЦКІ ГУМАР

## НАСКАЛЬНЫЯ НАДПІСЫ

Вы ніколі не спрабавалі глядзець на малаток з пункту гледжаньня цьвіка?

Ніколі не адкладай на заўтра тое, што можна зьесці сёння.

Ніколі не адкладай на заўтра тое, што можна зрабіць паслязаўтра.

А зь вяроўкі гледзіць удаль Камсамольскі сакратар.

Не хістаюцца толькі слупы, асабліва глыбока ўкапаныя.

Мы прачнуліся ў 9_40, нам было вельмі х..во (леглі мы у 3_30, прыблізна), мне х..во і цяпер.

Шчасьце = Ён + Яна + IBM + інамарка + катэдж + тоўстая каліта + яго здароўе - Яна.

Жыццё -- як дзіцячая пялюшка: малая і ўся запэцканая.

Надакучыла жыць!!! (памры з мірам, падла)

ДМ стала ўпоперак горла.

ныя, чым акты.

Хачу мяса!!!

All you need is love,(all you want is death)

Дурню грамата шкодзіць.

Гура, я здаў першую сэсію!!!.. і апошнюю.

Хопіць х..ёй маяцца, вучыцца трэба!

Хто-хто гэта напісаў?!

Словамі ўсе сказана, засталося адно рукапрыкладства.

Зараз пачнуцца масавыя цалаваньні

У.С. Пучынскі-Пірог

Езус Хрыстус пахвалены!

Дзе мой фотаздымаж!

Я так і не разумею, што раблю: ці лынды б'ю, ці журналістыкай займаюся.

Кась Елісеяў

Адно з вычварэньняў «шыхтоў» -- несьці поўны вады самавар з незакручаным носікам.

Каб вы ў Маскву зьезьдзілі!

Агульнашыхтоўскі праклен

Давайце пашкадуем нашыя мазгі.

С.І. Санько

Паседжаньне, цьфу, пачынаецца.

Мяне зноў зарэжуць.

Рушнічком вушы прачысьць.

Агульны пасыў будзем выбіваць.

Каляды -- цэнтралізавана, ці групоўкамі.

У гамяльчан бардак лепшы.

## НАШЫ КАЖУЦЬ

Г. Вінярскі

Куды вош, туды і ўсе.

І. Міхно

На купальлі трэба распаясацца.

Зацягнуць мы заўсёды пасьпеем.

Дуда, як капрызная жанчына

Каб не застацца удаўцом, хлопцы, хапаейцедзевак.

Хв.А. Кашкурэвіч

Ня ведаю, я ўніз не падымаўся.

Вычварэньне: стрыгчы кусты на плошчы Незалежнасьці касой.

Лепей упасьці носам, чым упасьці душой.

Зьм. Дзядзенка

Як пайду я да Любліна.

В. Емяльянчык

Жавароначкі прылятаюць к чорту.

В. Малышава

Я -- гаспадар халявы.

А. Мельнікаў

## Партыйныя чуткі

**Чутка № 1**

З мэтай паралізаваць працу Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў няведамы злаўмысьнік зьнёс 30 мэтраў тэлефоннага кабэля з пад дому старшыні Рады ЗБС Антося Бокуна. Рэакцыя Рады Задзіночаньня пакуль што невядомая. Тое ж як прарэагаваў на гэтае сам Антось, можна праілюстраваць некалькімі добрымі расейскімі словамі, якія, на жаль, ні аўтар гэтых радкоў, ні «шэф» так і ня вымавілі.

**Чутка № 2**

Як паведаміла «Народная Газэта», у «Объединении белорусских студентов» (ЗБС -- па-беларуску) зьявіўся новы кіруючы орган -- «Центральный совет» (Цэнтральная Рада па-нашаму). Ізноў такі сябры Рады (Совета -- просто совета по-ихнему) нічога пра гэтае ня ведаюць. Трэба, мусіць, чакаць зьяўленьня пасады Генэральнага Сакратара новаўтворанага органа. Хто ім стане -- застаецца толькі гадаць.

## ГАРАДЗЕНСКАЯ ВЫШЭЙШАЯ МЭДЫЧНАЯ ШКОЛА

**працяг са стар. № 1**

якіх краін, у тым ліку і сябрамі Пецярбургскай Акадэміі навук. Акадэмік Палас даслаў Жыліберу шмат расьлінаў, якія былі пасаджаныя ў спэцыяльным батанічным садзе пад Горадняй. Гэта быў першы ў Рэчы Паспалітай батанічны сад. У ім было каля дзьвюх тысяч расьлінаў, зь якіх больш паловы замежных. Параўноўваючы гэты сад з іншымі, многія сьмела лічаць яго адным з лепшых у Эўропе.

Планы Жылібера ня ведалі межаў - ён хадайнічаў аб адкрыцьці тут астранамічнай абсэрваторыі, дамогся стварэньня бібліятэкі, дзе былі сабраны кнігі па прыродазнаўству і медыцыне, выдадзеныя ў Францы, Галяндыі, Нямеччыне, Аўстрыі. Сярод іх былі і такія вядомыя і прагрэсіўныя ў той час працы, як «Энцыкляпедыя навук, мастацтваў, рамёстваў» Дзідро, працы Руссо і інш.

Усяго Мэдычная Школа ў Горадні падрыхтавала тры выпускі выхаванцаў. Шмат зь іх потым працавала на Беларусі, а такія як Андрэй Матусевіч, Іосіф Ялінскі, атрымаўшы ступень доктара мэдыцыны, выкладалі ў Віленскім унівэрсітэце ў якасьці прафэсараў Мэдычнага факультэта. Актыўны ўдзел у вывучэньні прыроды Беларусі прымалі выхаванцы Жылібера - ў Горадні Ануфрый Арлоўскі, Антон Лаўрыновіч, Марцін Суліма, Данііл Паўловіч. На іхні рахунак можна аднесьці складаньне «Беларускіх расьлінаў гербарыя», калекцыі мінералаў. Большасьць зь іх потым захоўвалася ў музеі Віленскага унівэрсітэта і ў прыватных зборах.

Нягледзячы на ўсе гэтыя посьпехі Вышэйшая Мэдычная Школа ў 1781 годзе была зьліквідавана. Прычыны - недахоп сродкаў і супрацьдзеяньне рэакцыйных колаў. Жылібер, выкладчыкі і большая частка абсталяваньня былі накіраваныя ў Віленскую Галоўную Школу. Там на гэтай аснове, а таксама на аснове мясцовага музея і катэдры анатоміі быў адкрыты Мэдычны факультэт.

**Андрэй Самусік**

Эдгар По

## СЭРЦА ВЫКРЫВАЕ

**працяг са стар.№ 3**

я рабіў цягам сямёх доўгіх начэй - штоночы акурат апоўначы, - але вока здавалася мне заўсёды заплюшчаным, з прычыны чаго й не выпадала зьдзейсьніць задуму, бо дадзяваў мне ня сам стары, але ягонае Паганае Вока. І штораніцы, калі бралася ўжо на дзень, я сьмела йшоў у спачывальню й харобра гаманіў зь ім, па-прыяцельску мянуючы яго па імені й дазнаючыся, як мінула ноч. Гэткім парадкам, яму належала быць вельмі праніклівым чалавекам, каб запасочыць, што кожнае ночы, рыхтык а дванаццатай, я зазіраў да яго, пакуль ён спаў.

На восьмую ноч я быў асабліва пільны, прачыняючы дзьверы. Хвілінная стрэлка гадзіньніка рухалася нашмат хутчэй, чымся мая рука. Ніколь дагэнуль не адчуваў я гэткае патужнасьці собскіх сілаў, сваёй празорлівасьці. Я ледзь стрымліваў пачуцьцё трыюмфу. Адно падумаць, што я прыходзіў, спакваля расчыняў дзьверы, а стары нават у сьне ня бачыў маіх таемных учынкаў ды задумаў. Уявіўшы гэта, я ажно пырснуў сьмехам, а ён, магчыма, чуў мяне, бо раптам заварушыўся, быццам зьлякаўся чагось. Цяпер, мабыць, мадумаеце, што я адступіўся - але зусім не. Апраметная цемра ахінала ягоны пакой (ён баяўся злодзеяў і шчыльна зачыняў аканіцы), таму я ведаў, што ён ня ўгледзіць шчылінкі ў дзьвярох, і патроху налягаў на іх.

Я запусьціў у спачывальню сваю галаў і важыўся ўжо адчыніць ліхтар, але, калі мой пястук прасьлізнуў па бляшанай засаўцы, стары ўскочыў у ложку, выгукнуўшы: «Хто гэта?»

Я застаўся нерухомы й маўчаў. Цягам цэлае гадзіны я не варушыўся, але не пачуў тым часам, як ён зноўку лёг. Ён усё шчэ сядзеў на ложку, услухоўваючыся, дакладна гэтак жа, як я ноч у ночпрыслухоўваўся да магільнае цішы пакоя.

Трохі пазьней я пачуў стогн; я ведаў, што стогн гэты спароджаны бязьлітасным страхам. Гэта ня быў енк пакуты або скрухі, - ох, не! -гэта быў ціхі, прыдушаны енк, што падымаецца з глыбіні душы, прасякнутай вялікаю пашанай да жаху. Гук быў мне добра ведамы. Часьцяком уначы, акурат апоўначы, калі ўсё сьпіць, ён шалёна ймкнуўся вонкі маіх грудзей, паглыбляючы сваім сьмяротным рэхам страхі, якія шкуматалі мяне. Упэўнены, што ведаю яго добра. Я ўяўляў, што адчуваў стары, і спачуваў яму, хаця й пасьмейваўся ў душы. Я ведаў, што ён ня спаў ужо пасьля першага нязначнага шуму, які змусіў яго заварушыцца ў пасьцелі. Жахі ўсё мацней сьціскалі яго ў сваіх абцугох. Ён намагаўся ўявіць іх беспадстаўнымі, але ня мог. Ён казаў сабе: «Гэта нішто іншае, як вецер у коміне, гэта адно мышына праскочыла па падлозе», -альбо: «Гэта проста цвыркун крыху пасакатаў». Ведама, ён сіліўся суцешыць сябе гэткімі прыпушчэньнямі, але ўсё дарэмна. Усё дарэмна, бо Сьмерць, набліжаючыся да яго, падбіралася чорным ценем і ахінала ахвяру. І якраз немінучае ўзьдзеяньне бесьцялеснага ценю спрычынілася да адчуваньня ім (хаця ён ня чуў і ня бачыў), да адчуваньня, што мая галаў тут, у пакоі.

працяг будзе

Заснавальнік і выдавец — Задзіночаньне Беларускіх студэнтаў
**Рэдакцыйная калегія: Аляксей Глушко, Ігар Тышкевіч, Андрэй Іваноў, Юрась Бушлякоў**
**Макет выраблены пры ўдзеле Літаратурна-мастацкае суполкі**